# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 42 (1588) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 19 КАСТРЫЧНІКА 1986 г. ЦАНА 10 зл.



Беласток. Вуліца Ю. Гагарына. Фота Я. Целушэцкага.




## ТРЫ СПРАВЫ І ПРАПАНОВЫ

У апошні час насунулася мне некалькі думак, з якімі хачу падзяліцца. Першая, гэта, па-мойму, важная справа, справа аўкцыёнаў, пра якія часта піша ў „Ніве" Пётр Байко. Атрымаў я ліст з-за мяжы ад сябра, які пытаецца ў мяне, ці змог бы я яму купляць цікавыя кніжкі на ўспомненых аўкцыёнах. Што я мог яму адказаць? У мяне такіх магчымасцей няма. Кніжкі гэтыя надта ж дарагія, а самі аўкцыёны адбываюцца ў вельмі аддаленых ад мяне гарадах. Сумна мне зрабілася, што не магу дапамагчы свайму сябру.

Ну, хто з чытачоў „Нівы" зможа прыватна паехаць на такі аўкцыён? Той, хто хоць крыху ездзіў цяпер па краіне, дык ведае, якія грошы трэба мець з сабою, каб сяк-так пераначаваць у нейкім гатэлі ды сёе-тое паесці на снеданне ці абедак які... Я не кажу пра канкурэнцыю ў падбіванні цаны на тую ці іншую кніжку даўнюю; гэта ж аўкцыён, і купляе даную кніжку той, хто найбольш грошай за яе дасць.

Насоўваецца такая думка: заснаваць беларускі культурна-асветны фонд пры Беларускім грамадска-культурным таварыстве (што не пярэчыць яго статуту). Маючы такі фонд, можна было б паслаць на аўкцыён свайго прадстаўніка з адпаведнымі грашыма. Купленыя ім на аўкцыёне кніжкі знакаміта ўзбагацілі б бібліятэку БГКТ! Такая бібліятэка служыла б не толькі чытачам, але і даследчыкам беларускай культуры. Трэба памятаць заўсёды, што самай высокай і падставовай формай культурна-асветнай дзейнасці з'яўляецца чытанне кніжкі, якога не заменіць ніякая іншая форма, ніякая імпрэза ці вечарына.

А так — чытаеш у „Ніве" пра гэтыя аўкцыёны і адно сэрца поўніцца горыччу ад пачуцця бяссілля.

І яшчэ адно пытанне, на тэму якога хачу адразу тут выказацца. А менавіта наконт нянавай думкі пра... „Ніву" на польскай мове. „Ніва" на польскай мове гэта было б нейкай несусветнай недарэчнасцю! Можна, аднак, падумаць — дзеля большай папулярнасці нашай газеты — пра нешта іншае. Маю я на ўвазе вось што: спрабаваць друкаваць некаторыя або і ўсе артыкулы ў „Ніве" беларускай лацінкай, лацінскім алфавітам, прыстасаваным да беларускага

(Працяг на стар. 4)

# З ЧЫМ У БУДУЧЫНЮ?

У час звычайнай сесіі Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку, якая адбылася 30 верасня, радныя засяродзілі сваю ўвагу ў асноўным на дзвюх праблемах: развіццё прыватных, кааператыўных і дзяржаўных адзінак дробнай вытворчасці ды паслуг для насельніцтва і грамадска-гаспадарчы план на 1987 год.

Сесія, аднак, пачалася ад інтэрпеляцый і пытанняў радных у адрас ваяводскай адміністрацыі. Гэта ўжо даўно закаранелы звычай у дзейнасці ВРН. Ён дазваляе кожнаму раднаму, як прадстаўніку сваіх выбаршчыкаў і выказніку іх інтарэсаў выносіць на аўтарытэтны форум Ваяводскай рады ўсялякія пытанні, вырашэннем якіх, паводле раднага, неабходна зацікавіць ваяводскую ўладу.

У час XV сесіі ВРН у Беластоку першая з інтэрпеляцыяй выступіла **Таіса Кацэйка** з Орлі. Гэта настаўніца. У працы ВРН праяўляе яна вялікую актыўнасць. На гэты раз выступіла яна ад імя сялян Арлянскай гміны з патрабаваннем, каб тэрыторыю гэтай гміны перакваліфікаваць з **трэцяй** падаткавай акругі ў **чацвертую**. Гэта значна аблегчыла б жыццё мясцовым земляробам. Сваё патрабаванні радная Т. Кацэйка апраўдвала слабой якасцю зямлі ў вёсках Арлянскай гміны.

З адказам на інтэрпеляцыі радных абавязкова ў час той жа сесіі выступае ваявода або яго намеснік. 30 верасня гэтая роля прыпала віцэ-ваяводу **Юльяну Сляжынскаму.** Ён адмоўна аднёсся да патрабавання прадстаўніка Арлянскай гміны. Ю. Сляжынскі заявіў, што ў сям'і 49-ці гмін, якія састаўляюць Беластоцкае ваяводства, Орля крочыць у авангардзе, бо ўжо на 9

(Працяг на стар. 4)




### У АКУЛІСТА

Чакаючы ў прыёмнай
Акуліста,
Чытаю пра розныя хваробы,
Якія пагражаюць чалавеку,
І як ад іх ратавацца.
І дзіўлюся, што забылі
Пра самую небяспечную
хваробу —
Пра слепату
Ад славы ці ўлады.
Можа, таму, што яна амаль
Не паддаецца лячэнню.

* * *

Здарожыўшыся, ля студні
Выціраю твар
І неспадзявана адчуваю,
Быццам нехта
Чулай, шорсткай далоняй
Здымае з мяне стому,
Цяжар пражытых гадоў.
Але ж няма нікога.
Няўжо гэта — матчын ручнік?
І са здзіўленнем бачу,
Як на ім праяўляецца
Самы святы
І нерукатворны яе вобраз.

* * *

Шмат ёсць пахаў-духоў.
І ўсё ж ім не зраўняцца
З пахам весніх палёў,
Лугавін-сенажацяў,
Ягаднікаў, імхоў,
Ап'яняючай хвоі,
Бліскавічных дажджоў,
Хлеба і сырадою.
Гэты пах увайшоў
Назаўжды, як замова,
Ў маё сэрца і ў кроў
Беларускага слова.

**Максім Танк**




## АБ НІГІЛІЗМЕ (2)

І колькі ж іх, такіх нашых грамадзян, якія пры любой нагодзе або і без нагоды любяць накінуцца на сваю дзяржаву, прыпісваючы ёй усе грахі свету, а перш за ўсё абвінавачваючы яе ў тым, што яна не ставрае ім адпаведных матэрыяльных умоў. Вельмі часта спасылаюцца яны на такія дзяржавы, як Швецыя, Германія, Амерыка. Цікава, што гэтыя грамадзяне заўсёды гавораць толькі аб тым, як добра на Захадзе жывуць, але не гавораць, як добра там працуюць. Так, як бы не разумелі, што дабрабыт заўсёды залежыць ад якасці працы. А якая ж праўда? Ці праўда, што на Захадзе людзі жывуць лепш, чым у нас? Так напэўна. А вынікае гэта з таго факту, што даражаць работай і, калі яе маюць, выконваюць так як трэба, салідна і ахвярна. Калі будуць працу трактаваць па-другому — страцяць яе вельмі хутка. Ва ўсіх заходніх краінах існуюць арміі беспрацоўных, якія зараз жа гатовы замяніць тых, хто кінуў рабочае месца. У нас праца шукае рабочага, на Захадзе — рабочы шукае працы. Думаю, што нешанаванне працы з'яўляецца адным з найбольшых прычын параўнаўча нізкага ўзроўню нашага жыцця.

Ці аднак гэты ўзровень сапраўды нізкі? У параўнанні са Швецыяй ці Амерыкай — так. Ці маем аднак права на такія параўнанні? Думаю, што не. Польшчу трэба параўноўваць з Польшчай і з нікім іншым: не з Амерыкай і не з Конга, бо вядома, што ў такіх сітуацыях пападзем толькі ў непаразуменні і нічога не выяснім. І калі параўнаем Польшчу з Польшчай, гэту сённяшнюю з учарашняй, то кідаецца ў вочы аграмадны прагрэс. Здаецца мне, што на працягу апошніх трыццаці гадоў для дабрабыту людзей зроблена ў нас болей, чым на працягу мінулых трохсот гадоў. Да гэтых несумненных дасягненняў, якія карэнным чынам змянілі наша жыццё, адношу:

— поўную электрыфікацыю Польшчы;

— пабудову асфальтных або бітых дарог практычна да ўсіх вёсак у краіне;

— бясплатную медыцынскую дапамогу ўсім грамадзянам;

— гарантаванне пенсіі ўсім пажылым жыхарам вёскі, якія не ў стане апрацоўваць сваю гаспадарку;

— поўнае бясплатнае навучанне ўсіх дзяцей і моладзі, пачынаючы ад першага класа пачатковай школы, а канчаючы апошнім курсам універсітэта.

— доўгія платныя водпускі для жанчын, якія нарадзілі дзяцей;

— механізацыю ў апрацоўцы глебы, якая карэнным чынам аблегчыла сялянскую працу.

Вось усё гэта і лічу галоўнымі здабыткамі жыхароў Народнай Польшчы. Зразумела, што не бракуе ў нас спраў не вырашаных, не даведзеных да канца. Аднак не могуць яны перакрэсліць бясспрэчных і вялікіх дасягненняў. Чаму нашы нігілісты як у размовах між сабой, так і ў размовах з чужынцамі не гавораць аб гэтым? Не ведаю.

І яшчэ адно: сталы ў Польшчы выглядаюць не горш, чым на Захадзе. А гарэлкі на іх — чым няма сэнсу хваліцца але што сведчыць аб матэрыяльным узроўні жыцця — болей чым на сталах у заходніх краінах. Не ведаю, хто з заходнікаў сказаў аб нас вельмі дасціпна: „У нас усё ёсць у магазінах, але нічога няма на сталах, а ў вас нічога няма ў магазінах, але ўсё ёсць на сталах“

**(Працяг на стар. 11)**




### ЭЛЕКТРОННЫ „АГРАНОМ“

Унікальнай уласцівасцю — аглядаць палі, аператыўна выяўляць прыкметы развіцця раслін і іх захворванні, звязаныя са змяненнямі пігментнага апарата, надзелена сістэма, распрацаваная супрацоўнікамі Навукова-даследчага інстытута прыкладных фізічных праблем Белдзяржуніверсітэта.

Звычайныя метады візуальнага назірання за сельскагаспадарчымі ўгоддзямі, якія спалучаюцца з лабараторным аналізам асобных проб, вельмі працаёмкія. Таму рашэнні па лячэнню або перасеву ў гаспадарках нярэдка прымаюцца са спазненнямі. Галоўная вартасць вынайдзенага электроннага „агранома“ — дакладнасць: па паказаннях прыбора можна вызначаць, напрыклад, гушчыню пасеваў азімых, стадыі росту культур, патрэбы іх ва ўгнаеннях, нават аб'ектыўна ацэньваюць , у якой ступені поле пашкоджана пустазеллем.

У Мінскім філіяле навукова-вытворчага аб'яднання „Аграпрыбор“ ужо заканчваюць выраб доследнага ўзору. А ў пачатку наступнага года тут плануюць пачаць выпуск установачнай партыі.

Хоць прыбор па канструкцыі складаны, ён свабодна змесціцца ў спецыяльным чамадане. На першым часе апарат паслужыць толькі вучоным і канструктарам, якія пасля эксперыментаў зробяць вывады аб магчымых сферах яго прымянення.

### У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ СТЫЛІ

Захоўваючы лепшыя самабытныя рысы беларускай вёскі, будуюць камфартабельнае жыллё ў Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці. Гэтым займаецца спецыяльная будаўнічая брыгада з райцэнтра. У калгасе „За Радзіму“ яе работнікі здалі нядаўна дзесяць добраўпарадкаваных катэджаў для калгаснікаў.

У якасці асноўнага будаўнічага матэрыялу тут выкарыстаны керамзітабетонныя пліты. Каб не нараджаліся дамы-блізняты, сцены іх арыгінальна ўпрыгожылі, пафарбавалі ў розныя колеры. Драўляныя веранда і балкон выкананы ў народным стылі.

Паклапаціліся будаўнікі і аб зручнасці жылля. У кожным доме, узведзеным на двух узроўнях, ёсць гасцінная, дзве спальні, кухня, дзіцячы і ванны пакоі. Для хатняй жывёлы на сядзібах ёсць спецыяльныя падворкі з гаспадарчымі пабудовамі.

У беларускіх вёсках за гады мінулага пяцігоддзя пабудавана звыш 100 тысяч добраўпарадкаваных кватэр. Большасць з іх — каля 70 працэнтаў — сядзібы, якія захавалі нацыянальную самабытнасць. У дванаццатай пяцігодцы аб'ёмы сельскага жыллёвага будаўніцтва ў рэспубліцы плануецца падвоіць.

### ПОМНІЦЬ ГРОДНА...

Імем Героя Савецкага Саюза Агадзіла Сухамбаева названа адна з вуліц у новым мікраёне Гродна. Так увекавечана памяць сына казахскага народа, які паўтарыў пры вызваленні гэтых мясцін ад гітлераўскіх захопнікаў легендарны подзвіг Аляксандра Матросава.

### ОРДЭН — ПАЭТУ

За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і шматгадовую работу ў друку Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў беларускага пісьменніка Генадзя Бураўкіна ордэнам Дружбы народаў.

Як мы паведамлялі ўжо, паэту Генадзю Бураўкіну ў жніўні споўнілася пяцьдзесят гадоў. Літаратар вядомы ў БССР не толькі сваімі творамі, але і актыўнай грамадскай і дзяржаўнай дзейнасцю. Ва ўрадзе рэспублікі ён займае пасаду старшыні Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні.




### ІДЭАЛОГІЯ НЯНАВІСЦІ

„Па ўсёй краіне распаўсюджваецца ракавая пухліна неанацызму, і калі не прыняць экстранныя меры, то краіна пажне ўраджай нянавісці“, — адзначала тэлекампанія Эй-бі-сі.

Сёння неафашысцкія арганізацыі ў ЗША не ўваскрэслы з мёртвых палітычны феномен. Яны існуюць дзякуючы амерыканскім манаполіям, ваенна-прамысловаму комплексу, палітычным „ястрабам“ і ультраправым у Белым доме, Пентагоне і Капітоліі. Па-ранейшаму ў Амерыцы ёсць людзі, якія старанна моляцца дэманам мінулага. Культываемы імі шавінізм і расізм з'яўляецца той жыватворнай глебай, на якой узыходзяць ядавітыя парасткі неанацызму.

У штаце Айдаха ля возера Хейдэн знаходзіцца лагер неафашыстаў з арганізацыі „Арыйскія нацыі“, узначальваемай пастарам Рычардам Батлерам.

Гэты „духоўны настаўнік“ пакланяецца двум сімвалам — крыжу і свастыцы. Свае „пропаведзі“ ў мясцовай царкве ён пачынае фашысцкім прывітаннем, на якое „парафіяне“ дружна адказваюць тым жа. Заклікі Р. Батлера з амбону не вельмі арыгінальныя, паколькі ў многім пераняты з нацысцкай біблii „Майн кампф“. Гэта тыя ж зацяганыя ідэі аб „звышчалавеку“, яго „месіянскай ролі“, пагрозы ў адрас камуністаў і яўрэяў. „Прападобны Батлер, — піша „Мерк'юры ньюс“ — не проста прадракае крывавае пабоішча, але і актыўна да яго падбухторвае“.

Штогод на тэрыторыі лагера „Арыйскія нацыі“ праводзіцца нешта накшталт злёту ультраправых. Прычым неанацысты не абмяжоўваюцца толькі дыскусіямі. Яны актыўна асвойваюць метады партызанскай вайны, авалодваюць рознымі відамі зброі. Заняткі праходзяць пад акампанемент выбухаў гранат і аўтаматычных чэргаў. Вопытныя тэрарысты перадаюць сваім падапечным навыкі, як самому зрабіць бомбу, як і дзе закласці ўзрыўчатку на мосце або чыгуначным палатне, падпаліць бензін, зліты ў гарадскую каналізацыю. І для чаго вядзецца такая падрыхтоўка, здагадацца не цяжка. Кожны дзень у ЗША рэгіструюцца ў сярэднім дзве буйныя антысеміцкія акцыі рознага роду: апаганенне яўрэйскіх могілак, падпальванне сінагог, збіванне яўрэяў.

У лістападзе мінулага года ў ньюйоркскім раёне Бруклін, група фашыствуючых малойчыкаў учыніла пагром належачых яўрэям магазінаў, прымеркаваўшы яго да 47-й гадавіны пачатку масавага нацысцкага тэрору ў Германіі. Не так даўно ў невялікім гарадку Маналапан, штат Нью-Джэрсі, экстрэмісты з дапамогай трактара спрабавалі сцерці з зямлі сінагогу.

Хуліганы выбіваюць у дамах яўрэяў шыбы, малююць на сценах свастыку. Толькі паводле афіцыяльных, далёка не поўных дадзеных, у мінулым годзе ў ЗША было адзначана звыш 300 нападзенняў расістаў на грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці. Прычым тэрарысты не спыняліся нават перад забойствам.

Пры патуранні ўлад у краіне, акрамя такіх прафашысцкіх арганізацый, як „Арыйскія нацыі“, „Парадак“, арудуюць таксама „Запавет, меч і рука Госпада“, ку-клукс-клан, нацыянал-сацыялісцкая партыя Амерыкі. З мэтай папоўніць свае рады новымі прыхільнікамі, асабліва моладдзю, неанацысты шырока выкарыстоўваюць сродкі масавай інфармацыі і розныя фашысцкія рытуалы, закліканыя, на іх думку, „абудзіць ваяўнічы дух белай расы, якая загразла ў самаздаволенасці“. У амерыканскім друку публікуюцца рэкламныя аб'явы, паведамленні аб фашысцкіх зборышчах, працягваюцца расісцкія ідэі. Выпускаецца легальная газета „Спотлайт“ тыражом 166 тысяч экземпляраў. Створана камп'ютэрная „сетка свабоды арыйскіх нацый“, да якой можа падключыцца любы амерыканец, які мае дамашні камп'ютэр. Па гэтай сетцы перадаецца самая разнастайная інфармацыя, якая датычыць дзейнасці неанацыстаў, насаджаемых імі канцэпцый, спісы і адрасы актывістаў прагрэсіўных арганізацый, што з'яўляюцца „пагрозай Амерыцы“.

Актывізацыя неанацыстаў у ЗША — прамы вынік унутранай і знешняй палітыкі цяперашняй амерыканскай адміністрацыі.

**В. Б.**

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

АПАВЯДАННЕ

## Сустрэча са Славутым Літаратарам

У месяцы верасні гэтага года святкавалі мы трэцюю гадавіну аднаго здарэння, якое доўга яшчэ, напэўна, будзе тэмай для вуснай студэнцкай творчасці. Як усе ведаюць, кожная вусная творчасць з часам выкрыўляе праўду, задумаў тады я апісаць здарэнне так, як яно выглядала сапраўды. Дзякуючы мне, ад гэтай пары можна будзе заўсёды вярнуцца да ісціны аб'ектыўнай. Але я чалавек скромны і не раблю гэтага для свае славы, а проста дзеля прынцыпу, які можна выказаць славамі Арыстоцеля: „Платон мне друг, але ісціна даражэйшая". Не магу ўжо сцярпець усіх хлусняў пра гэтае здарэнне, хай аўтарамі іх будуць нават мае сардэчныя сябры.

Быў цёплы, сонечны верасьнёвы дзень. На панадворку Варшаўскага універсітэта снавалася вялікая грамада студэнтаў. Спакойныя твары, павольныя рухі, ніякага раздражнення. Гэта пачалася „сесія навукоўцаў", інакш „верасьнёвая кампанія", у якой экзамены здаюць людзі найбольш дасведчаныя, разважныя. Іх абы-чым не здзівіш, не ўстрывожыш.

І вось у такой сонна-меланхалічнай атмасферы з'явіўся чалавек з торбай, перавешанай цераз плячо, на якой красаваўся надпіс Coca Cola. Ішоў ён хуткім, энергічным крокам, галаву нёс высока, ганарыста. Яго зрок быў накіраваны ў далячынь, а вочы ярка свяціліся. Ад гэтага чалавека, а быў ім Славуты Літаратар, білі промні героя. І, пэўна, былі б мы сведкамі нараджэння новага вялікага твора Славутага Літаратара, калі б не група студэнтаў, што набліжалася няспешлівай хадой з боку універсітэцкай бібліятэкі. Усе трое паходзілі з таго самага невялічкага гарадка ў глухой правінцыі, што і Славуты Літаратар. Геній паэзіі (прозы, драмы і ўсяго, што толькі ёсць у літаратуры), пэўна, іх і не заўважыў бы, каб не пачуў з-за плячэй:

— Д-добры дзень.

То разяваваты студэнт збянтэжана прашаптаў прывітанне.

— А, добры дзень! Добры дзень, Жаба! — кінуў у адказ Славуты Літаратар, пазнаўшы па голасе разявbooватага студэнта і даводзячы яго такім чынам да самых высокіх вышынь шчасця.

Цэлы інцыдэнт, пэўна, гэтым і закончыўся б, калі б Славутага Літаратара, які паспеў ужо адыйсці крокаў з трыццаць ад месца сутыкнення са студэнтамі, не ашарашыла маланкай думка. Ён стаў як укапаны, светлыя дасюль думкі памуціліся, звіхрыліся. Пастаяў секунд пяць, затым рэзка павярнуўся і на ўвесь універсітэцкі дзядзінец закрычаў:

— Жаба! Жаба!

Разяваваты студэнт зарэагаваў на кліч вокамгненна. Шур, шур, шур, — замятаючы доўгімі поламі плашча тратуар і прытрымваючы ранец, які штораз ссоўваўся з ягоных плячэй, а пры тым — гоп, гоп, гоп — падскакваў і ўдараў па спіне, паімчаў у бок Славутага Літаратара. Паводзіны таго апошняга, а таксама гвалтоўная рэакцыя сябра былі настолькі неспадзяваныя, што іншыя з групы — барадаты, на мядзведзя падобны студэнт і невялічкая студэнтка з шопаю кручаных валасоў — толькі праз некалькі хвілін вырашылі падацца наўздагон за разяваватым студэнтам.

— Вы не! Толькі Жаба! — рашучым голасам і адмоўным жэстам рукі асадзіў іх Славуты Літаратар.

А Жаба тым часам працягваў замятаць поламі свайго плашча тратуар, пакуль не затрымаўся перад Славутым Літаратарам. Цэлай сваёй постаццю выказваў нецярплівасць і вялікую цікавасць пачуць нешта новае ад паўсюдна вядомага земляка: расчырванелы і цяжка сапучы пасля хуткага бегу, стаяў з разяўленым ротам, з якога ледзь-ледзь не цякла сліна, вочы былі поўныя захаплення і абажання.

— Жаба, вы яшчэ не ажаніліся? — адным духам выпаліў Славуты Літаратар.

— Не! — хутчэй інтуіцыйна, чым свядомы, чаго ад яго хочуць, адказаў разяваваты студэнт.

— Дзякуй, — выразна павесялеўшы Літаратар адвярнуўся на пяце і пакрочыў энергічна ў свой бок.

Студэнты яшчэ доўга стаялі ў тым самым месцы і праводзілі зрокам Славутага Літаратара, думкі якога былі ўжо далёка ад зямных, штодзённых клопатаў — свабодна гойсалі ў цудоўнай краіне паэзіі.

**Ян Іванюк**




У Беластоцкім запаведніку

З РЭЙДУ „БАЦЬКАЎШЧЫНА-3"



**Наймалодшы ўдзельнік рэйду, вучань Гайнаўскага ліцэя — наймеппы са слаўнай сям'і Вапаў.**

**Фота Л. Тарасэвіча.**

## КОНКУРС! КОНКУРС! КОНКУРС!

Толькі што пачаўся акадэміцкі год. Пара была б праверыць свае веды. Дзеля гэтага падрыхтавалі мы дзесяць пытанняў па гісторыі літаратуры, ды ўвогуле беларускага пісьменства. Накіраваны яны перш за ўсё да студэнцкай і ліцэйскай моладзі, але не толькі. Некаторым гэтыя пытанні могуць здацца выпадковымі, неўпарадкаванымі. Так яно і ёсць сапраўды. Гэты невялічкі конкурс не прысвечаны ніякай гадавіне, ані асобе, а толькі таму, каб кожны мог убачыць, колькі ведае з таго, што, на нашу думку, ведаць павінен. Ёсць толькі адна супольная рыса ўсіх пытанняў — датычаць яны спраў, якія, калі нават каму пашанцавала вывучаць беларускую мову ў школе, не былі выэкспанаваны на ўроках. Да іх трэба было дайсці самому. Як бачыце, усе маюць аднолькавыя шанцы. Калі нейкае пытанне прынясе вам нейкую цяжкасць, просім не прапускаць яго без ніякай увагі. Няхай яно стане для вас стымулам да таго, каб заглянуць у адну, другую кніжку, тое-сёе прачытаць. А калі ўжо дойдзеце да праўды, г.зн. будзеце ведаць адказы, прысылайце іх нам. Канчатковы тэрмін высылкі лістаў — дзень, у якім выйдзе наступная „Прысутнасць". Калі спраўдзяцца нашы меркаванні, павінна яна быць больш-менш праз месяц. Той, хто прышле адказы прынамсі на шэсць пытанняў, атрымае невялічкую ўзнагароду — спеўнік з найбольш папулярнымі на нашых рэйдах песнямі. А калі хтосьці занадта лянівы, каб выслаць ліст, або не цікавіць яго такая ўзнагарода, а ўсё ж хацеў бы знаць правільныя адказы на гэтыя пытанні, няхай чытае „Прысутнасць" праз два месяцы.

1. У студзеньскім нумары „Прысутнасці" быў змешчаны верш Янкі Здольніка „Новы год". Але гэта не першае ў беларускай літаратуры з'яўленне персанажа з такім прозвішчам. Назаві аўтара і твор, герой якога таксама называецца Янка Здольнік.

2. Год таму назад у Зялёнай Гуры славуты ўжо цяпер на Беласточчыне квартэт „Звон" заваяваў бронзавы самавар песняй „Камар" на гаворцы наваколля Бельска. Хто з беларускіх паэтаў напісаў яе на нашай літаратурнай мове? Падказваем, што з'яўляецца яна часткаю даўжэйшага твора.

3. Назаві галоўных аўтараў беларускіх часопісаў, якія ўбачылі свет у пасляваеннай Польшчы. Напамінаем, што ад некалькіх гадоў ёсць два часопісы.

4. У апошні час сярод студэнцкай моладзі вялікай папулярнасцю карыстаецца песня „У гушчарах". Хто аўтар слоў гэтай песні?

5. Назаві загалоўкі прынамсі пяці беларускіх газет, якія друкаваліся ў міжваеннай Польшчы.

**(Працяг на стар. 5)**




(Працяг са стар. 1)

правапісу (беларуская літаратура, як вядома, пачыналася на лацінскім алфавіце). Я таму прапаную гэта, што ў нашых канкрэтных умовах лацінскі алфавіт больш лёгкі ў чытанні, мы прызвычаены да яго па той простай прычыне, што жывем у польскай дзяржаве і лацінскі алфавіт гэта наша штодзённасць. Асабліва моладзь наша з вялікай цяжкасцю чытае „гражданкаю". Калісьці і „Наша ніва" выдавалася кірыліцай і лацінкай.

Цікава, што скажуць на гэта іншыя чытачы „Нівы"?!

І яшчэ адна справа: ці „Ніва" павінна быць вельмі фальклорнай? На маю думку — не! Звернем жа ўвагу на такі факт: выдаецца ў Польшчы нямала часопісаў, прысвечаных выключна народнай, фальклорнай культуры (казкі, песні і г.д.). І глянь-ма на тыражы гэтых часопісаў. Яны проста мінімальныя, нярэдка ў некалькі сот экземпляраў усяго на ўсю немалую ж польскую краіну! Мы, здаецца, перабольшваем зацікаўленне ў людзей народнай культурай.

А яшчэ колькі слоў хачу сказаць і пра „Сэрцайка". Яно, гэтае „Сэрцайка", чамусьці вельмі несур'ёзнае. Раней было яно больш жыццёвае, справы кахання трактавала паважней, як і належыць: ад кахання залежыць жа лёс усяго пазнейшага жыцця чалавека — уданае каханне, уданае замужжа ці жаніцьба — гэта і ўданае жыццё цэлае. А калі не — то і бяда на ўсё жыццё. Ці няпраўда гэта? А што мы чытаем у „Сэрцайку"? Часта нейкую балбатню смаркацкую... Я маю на ўвазе не столькі пісьмы ў „Сэрцайка", якія маюць права быць усялякімі, але — адказы рэдакцыі, якія не маюць аніякага права на лёгкадумнасць у гэтай, як жа важнай, фундаментальнай для чалавека матэрыі.

Ну, усё.

**Рышард Бутайла,**
Свінавусце

## КАЛІ БЕЛАРУС, ДЫК І ПАТРЫЁТ У НАС

Усе мы інстынктыўна адчуваем ды і бачым, што мала хто з намі, беларусамі, лічыцца сапраўды ўсур'ёз. Таму вельмі добра і па-сапраўднаму піша Алесь Барскі, вось як хаця б у трыццаць шостым нумары „Нівы". Праўда, Барскі нікога адкрыта не атакуе і не піша чорным па белым, што мы тут адчуваем нейкую дыскрымінацыю і што мы людзі другой катэгорыі. Але, у сапраўднасці, як яно ёсць? Вось у той жа „Ніве" піша ён, як нялёгка быць у нас беларускім пісьменнікам, а фактычна, як безнадзейна быць ім. Нават ганарараў для тых пісьменнікаў няма, хоць дагэтуль, да нядаўна, яшчэ былі. Аказваецца, ёсць беларускія людзі, якія працуюць з усіх сілаў сва-

(Працяг на стар. 6)



## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Старая лазня ў Боцьках. Мал. Уладзіслава Петрука.*

## НА СМЕРЦЬ ГЕНІ

Геня была вясёлай дзяўчынай. Жартавала, не гневалася без патрэбы. Угнявіць яе не было лёгка. Калі хто сварыўся, яна ўсміхалася і казала: „Ай, будзьма людзьмі. Чаго тут крычаць?"

Пачуўшы гэта, у людзей прападала ахвота да свараў.

У Гені заўсёды быў добры настрой.

Ды вось у каханні ёй не пашанцавала. Хадзіла з хлопцам, не вартым яе. Яна зацяжарыла ад яго, а ён адрокся ад яе, кінуў. Геня вырашыла тады гадаваць дзіцятка адна. Не плакала, не праклінала, а спакойна рыхтавалася да родаў, купляла будучаму немаўляці рэчы.

Радзіла яна аднак вельмі цяжка, яе завезлі ў Беласток. Была аперацыя. Нарадзілася дзяўчынка, слабенькая, яна пажыла ўсяго гадзіну. Малюткую нябожчыцу прыехалі забіраць, каб пахаваць, Геніна маці і сястра са шваграм. Дзіцятка хавалі назаўтра. Людзей прыйшло, вядома, мала. Трохі сваякоў і суседзяў.

Прамінула ўсяго некалькі дзён, быў якраз чацвер, калі памерла і сама Геня. У пятніцу прывезлі яе дамоў, на хутар Бяндзюга.

Калі хавалі Геню, то народу сыйшлося мноства, каб правесці яе ў апошні шлях векавечны. І плакалі ўсе, бо ўсе ведалі Геню, шанавалі яе за добры характар, за яе чалавечнасць. Рэдка бывае, каб маладога чалавека ўжо так шанавалі. А плач маці Гені быў такім плачам, які апісаць няма ў мяне сілаў.

Хавалі Геню ў суботні дзень.

Калі выносілі яе з царквы, чыгуначнікі семяноўскай станцыі ўключылі трывожныя гудкі, якія гулі доўга і жаласліва, абвяшчаючы вялікае няшчасце: памёр добры чалавек!

Былі два гудкі — грубы сімвалізаваў роспач дарослага, а тонкі нагадваў сабою плач маленькага дзіцяці. Так хавалі Геню, незабыўную Геню.

З месца работы, дзе працавала Геня, прыехалі яе сяброўкі і сябры, прывезлі жалобныя вянкі і сваё вялікае шкадаванне. І ўся прырода як бы аціхла ў жалобе.

Няхай табе, Геня, пухам будзе зямля!

**Аўрора**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Сергей Серrачев, Корчмы Белоруссии XVI-XIX вв., „Materiały Muzeum Budownictwa Ludowego w Sanoku", Sanok 1984 (wyd. 1985), Nr 28, ss. 36—46.

Mieczysław Pawlik, Specyfika wiatraków „sokólskich". Тамсама..., s. 128—136.

Franciszek Sielicki, Wiosenne i letnie zwyczaje doroczne w byłym powiecie wilejskim, „Lud", Wrocław 1985, t. 69, ss. 263—285.

Franciszek Sielicki, Ziemia wilejska w okresie międzywojennym, „Acta Universitatis Wratislaviensis", Nr 784, „Slavica Wratislawiensia", Wrocław 1985, t. 36, ss. 77—101.

Bogusław Nowowiejski, O rutenizmach leksykalnych w języku sokólskiej inteligencji, „Slavia Occidentalis", Warszawa 1985, t. 42, ss. 51—59.

Stanisław Góra, Początki powstania styczniowego na Litwie i Białorusi oraz działania oddziału Romana Rogińskiego na tych terenach w okresie od 7 lutego do 3 marca 1863 r., „Studia i Materiały do Historii Wojskowości", Wrocław 1985, t. 23, ss. 199—211.

Unici: przeszkoda a może szansa? Z ks. Henrykiem Paprockim, duchownym prawosławnym rozmawia Tadeusz Wyszomirski, „Więź", Warszawa 1986, Nr 1, ss. 69—75.

Stanisław Cieśliński, Porosty muraw kserotermicznych na kemach w północnej części Równiny Bielskiej, „Fragmenta Floristica et Geobotanica", A. Warszawa 1983 (wyd. 1986), t. 29, p. 3—4, ss. 435—449.

**Пётр Байко**

# З ЧЫМ У БУДУЧЫНЮ?

(Працяг са стар. 1)

месцы, па структуры натуральных умоў для наладжвання сельскагаспадарчай вытворчасці. Значыць, патрабаванні ільгот у падатках для сялян гэтай гміны ваяводская адміністрацыя лічыць неапраўданым.

Была яшчэ і іншая прычына адмоўнага адказу раднай Т. Кацэйка. У павестцы дня XV сесіі ВРН знайшоўся яшчэ адзін пункт падобнага характару. Прэзідыум ВРН прапанаваў радным прыняць пастанову аб перакваліфікаванні з III у IV падаткавыя акругі трох паўднёвых гмін: **Мельніка, Мілейчыц і Нурца-станцыі.** Радныя (пры трох галасах устрымаўшыхся) прынялі гэтую прапанову. І гэта вычарпала поўнасцю магчымасць ды правамоцтвы ВРН у гэтай галіне, аб чым папярэдзіў радных старшыня Прэзідыума ВРН праф. М. Шаматовіч. Згодна з сеймавай пастановай аб зямельным падатку ВРН мае права перакласіфікаваць толькі 0,5% плошчы, ад якой неабходна плаціць падаткі. Перакласіфікаванне гмін Мельнік, Мілейчыцы і Нурэц якраз умяшчаецца ў гэтым ліміце. Сялянам Арлянскай гміны астаецца надзея, што цэлае Беластоцкае ваяводства, магчыма, неўзабаве будзе ў IV падаткавай акрузе. З гэтакай прапановай да цэнтральных улад звярнуліся прадстаўнікі Беласточчыны і, як сцвердзіў віцэ-ваявода Ю. Сляжынскі, гэтая прапанова мае даволі спрыяльныя шанцы, каб быць рэалізаванай.

Былі, вядома, яшчэ і іншыя інтэрпеляцыі. Ян Каліноўскі, радны з гміны Сямяцічы, патрабаваў, каб ветэранам вайны і змагарам за народную ўладу, значыць, усім членам ЗБоВіД, стварыць спрыяльныя ўмовы для пакупкі вугалю на зіму. Аказваецца, што ваявода не можа распарадзіцца ў гэтай справе. Не мае права, бо тое, хто можа карыстацца прывілеяй пакупак без чаргі, вырашае міністэрскае распараджэнне ад 6 снежня 1984 года. Аднак, гаварыў Ю. Сляжынскі, няма перашкод, каб гэтыя справы ў адносінах да канкрэтных выпадкаў і асоб вырашалі ў сябе на месцы гмінныя ўлады і прадстаўнікі гандлёвых арганізацый.

Антон Яроцкі з Драгічынскай гміны прапанаваў, каб цукровыя заводы не пазбаўлялі прэміі сялян, калі яны спозняцца на адзін-два дні з тэрміновай пастаўкай цукровых буракоў. За тэрміновую пастаўку буракоў цукроўні выплачваюць ад кожнай тоны па 400 зл. прэміі. Восенню, калі зменлівая пагода, не заўжды ёсць магчымасць дакладна на ўказаны дзень нарыхтаваць пастаўку гэтых салодкіх клубняў. Віцэ-ваявода Ю. Сляжынскі паінфармаваў радных, што ваяводскія ўлады дагаварыліся з цукроўнямі ў Лапах і Сакалове і яны не будуць пазбаўляць сялян прэміі пры невялікім, скажам 1-2-дзённым спазненні з пастаўкамі. Трэба, аднак, намагацца, каб даставляць буракі ў назначаны

# ПАРТЫЙНЫЯ БУДНІ

У гміне Новы Двор у кожнай вёсцы ёсць партыйная арганізацыя. Як нідзе, там кожны восьмы чалавек з'яўляецца членам ПАРП. 30 працэнтаў членаў падставовых партыйных арганізацый — гэта маладыя людзі, якім не больш 29 год. Як сцвярджае першы сакратар гміннага камітэта ПАРП Станіслаў Лабенец, падставовыя партыйныя арганізацыі асабліва ўзмоцнілі сваю дзейнасць перад X З'ездам партыі. Іх актыўнасць адчуваецца на кожным кроку і да сёння. Выступаюць яны з многімі ініцыятывамі ў сваім асяроддзі, мабілізуюць жыхароў вёсак.

Па ініцыятыве падставовай партыйнай арганізацыі ў Бутрымоўцах жыхары вёскі пабудавалі краму.

Хільмоны-вёска і Хільмоны-хутары (там дзве партыйныя арганізацыі) супольна наладзілі трохкіламетровы адрэзак дарогі, і цяпер да іх даходзяць аўтобусы ПКС. Плануюць таксама супольна пабудаваць вясковую краму, у якой знайшлося б месца на прадуктовыя і прамысловыя тавары.

У Новым Двары па ініцыятыве гміннай партыйнай арганізацыі пабудаваны гмінны асяродак культуры і раміза. Урачыстае адкрыццё гэтага аб'екта адбылося 24 верасня ў час дажынак. Пры дапамозе грамадскай працы людзей будзе таксама будавацца ў Новым Двары прадшколле.

У вёсцы Сынкоўцы партыйная арганізацыя ўзняла справу пабудовы святліцы і рамізы. Людзі, доўга не чакаючы, узяліся за працу. І вось ужо ўзведзены сцены. Ідуць намаганні, каб да зімы будынак быў пакрыты. Трэба таксама адзначыць, што крыху раней супольна з жыхарамі вёскі тут праводзіўся рамонт пяцікіламетровага адрэзка дарогі, якая спалучае вёску з гмінным цэнтрам. У вёску пачалі даязджаць аўтобусы. Як паведаміў нам сакратар С. Лабенец, ёсць намеры прадоўжыць гэтую аўтобусную лінію ў Ягінты.

Цяпер у партыйных арганізацыях пачынаюцца справаздачна-выбарныя сходы. На іх будзе падсумавана дзейнасць усіх 19 ПОП і намечаны планы далейшай працы, якая будзе служыць для дабра мясцовага грамадства.

Неабходна адзначыць яшчэ, што ў гміне Новы Двор ёсць некалькі беларускіх вёсак. У Хільмонах (у вёсцы і на хутарах) ёсць харавыя калектывы. Летам арганізаваўся харавы калектыў у Сынкоўцах. У рэпертуары гэтых калектываў шмат беларускіх песень. Мясцовыя партыйныя і адміністрацыйныя ўлады аказваюць калектывам усебаковую падтрымку.

**Міхась Хмялеўскі**
**Фота аўтара**



Новапабудаваны Дом культуры ў Новым Двары. (Здымак зроблены толькі на тыдзень перад перадачай у карыстанне).

(Працяг са стар. 3)

## КОНКУРС! КОНКУРС! КОНКУРС!

6. У апошнім нумары „Сустрэчы" быў надрукаваны артыкул Валянціна Сельвесюка „Пражскае зямляцтва". З яго можна даведацца пра спрыяльныя ўмовы жыцця беларускіх студэнтаў у пачатку дваццатых гадоў у сталіцы Чэхаславакіі. Калі скончыўся гэты „фенамен" (як гаворыць аўтар) пасля прызнання ўрадам Чэхаславакіі ўрада БССР, то ўсё ж такі не скончыліся прыязныя адносіны чэхаў да беларусаў. Назаві прозвішча паэтэсы (памерла некалькі гадоў таму назад у Савецкай Беларусі), якая з трыццатых гадоў нашага стагоддзя аж да канца вайны жыла ў Празе, там таксама выдала свой першы зборнік вершаў.

7. Назаві прозвішча і літаратурны псеўданім беларускага паэта і палітычнага дзеяча, магіла якога знаходзіцца ў Кракаве.

8. Нядаўна амаль цэлая „Зорка" была прысвечана вялікаму прыяцелю дзяцей Сяргею Новіку-Пяюну. „Зорачкі" — песня на яго словы стала амаль гімнам тых усіх беларусаў, якія апынуліся далёка ад роднай старонкі. Прыгадай першую страфу гэтай калісьці агульнавядомай песні.

9. Назаві прозвішча і літаратурны псеўданім паэта-нашаніўца з Беласточчыны, які запісаў каля Гарадка і папулярызаваў народную песню „Сядзіць голуб на бярозе".

10. Назаві верш Максіма Багдановіча, у якім ён звяртаецца непасрэдна да нашай гістарычнай спадчыны і як сімвал адраджэння Беларусі прымае герб Вялікага княства Літоўскага. Прыпомні два радкі тэксту верша, якія ў пачатку нашага стагоддзя абнадзейвалі беларускіх нацыянальных дзеячоў, дадавалі сіл, не пазвалялі апусціць рукі.

---

дзень. І гаспадары менш патрацяць часу, не стоячы ў чарзе, і цукраварня забяспечыць сабе сістэматычную пастаўку сыравіны.

Вера Раманчук з гміны Міхалова, настаўніца па прафесіі, выступіла з абгрунтаваным патрабаваннем, каб у Міхалове яшчэ ў гэтай пяцігодцы пабудаваць школу і жылы дом для 24 настаўніцкіх сем'яў. Адказваючы на гэтую інтэрпеляцыю, Ю. Сляжынскі заявіў, што ваяводская адміністрацыя добра ведае цяжкія ўмовы, у якіх вучацца дзеці і моладзь у Міхалове. Цяпер, для прыкладу, у адным школьным гмаху памяшчаюцца 32 класныя адзінкі. У 1995 г. будзе іх ужо 44. На жаль, няма рэальных магчымасцей, каб прыняць у рэалізацыю прапанаваную раднай В. Раманчук пабудову школы ў Міхалове. Гэтую школу ў Міхалове можна было б будаваць толькі тады, калі б спыніць пабудову нейкай іншай школы, ужо ўведзенай у план гэтай пяцігодкі. Толькі якую? Хто згодзіцца на гэта? — пытаў віцэ-ваявода Ю. Сляжынскі.

Ян Смык з Беластока, журналіст па прафесіі, гаварыў аб недахопе пародзістага матэрыялу для гадоўлі авечак і аб клопатах з продажам бараніны. Сваё выступленне закончыў ён даволі драматычным пытаннем: што ваяводская адміністрацыя намерана зрабіць, каб загаспадарыць 90 тон бараняга мяса?

Віцэ-ваявода не згадзіўся з яго вывадамі і паінфармаваў радных ВРН, што мясаперапрацоўчыя прадпрыемствы Беластоцкага ваяводства поўнасцю падрыхтаваны да таго, каб прыняць ад гадоўцаў авечак кожную колькасць бараніны. А для далейшай гадоўлі адпаведныя прадпрыемствы могуць ужо зараз прапанаваць 3 тысячы пародзістых ягнят. Заказ паступіў, аднак, толькі на 2500 штук.

Праект плана на будучы год рэкамендаваў радным ваявода **Мар'ян Гала.** План гэты з'яўляецца адрэзкавай распрацоўкай пяцігадовага плана, які быў ужо раней абмеркаваны раднымі ВРН. План на будучы год з'яўляецца адлюстраваннем нашых, на жаль, вельмі абмежаваных магчымасцей і не задавальняе рэальных патрэб у галіне грамадска-эканамічнага жыцця ў Беластоцкім ваяводстве. Прамысловасць мае павялічыць свае вытворчыя здольнасці на нейкіх 3-4 пункты, а сельскагаспадарчая прадукцыя павялічыцца толькі на 4%. Усё гэта прыдзецца дасягнуць пры абмежаваных і вельмі скупых пастаўках нафтапрадуктаў, вугалю, цэменту ды іншых будаўнічых матэрыялаў. Гэта абавязвае ўсе прадпрыемствы і ўстановы строга ажыццяўляць рэжым ашчаднасці. Інакш намечаныя рубяжы астануцца толькі на паперы. І адначасова неабходна канцэнтраваць сваю ўвагу на выбраных адрэзках. Для гарадоў будзе гэта пастаўка цяпла і вады, што гарантуе паспяховасць у жыллёвым будаўніцтве, а для вёскі таксама разбудова водаправодаў і паўторная электрыфікацыя.

Над гэтым праектам разгарнуліся заўзятыя спрэчкі. Сярод многіх дыскутантаў апынуўся таксама, як адзін з першых, доктар **Ян Зенюк.** Ён з трывогай гаварыў аб рэалізацыі прапанаваных заданняў, асабліва ў галіне жыллёвага будаўніцтва. План на будучы год прадбачвае, што будаўнічыя фірмы перададуць у карыстанне 3100 памяшканняў. Аднак ужо цяпер яны адстаюць, ды шмат, з ажыццяўленнем плана на гэты 1986 год. Не скрываў гэтага і сам ваявода М. Гала. *„Трэба выкарыстоўваць грамадскую актыўнасць жыхароў Беласточчыны"*, — прапанаваў радны Ян Зенюк і спасылаўся на прыклад жыхароў Гайнаўкі і Нарвы, дзе дзякуючы дапамозе мясцовага насельніцтва гайнаўчане датэрмінова атрымалі раённую бальніцу, а ў Нарве паспяхова ўзводзяць прыгожую школу.

Радныя ВРН аднагалосна зацвердзілі ваяводскі грамадска-эканамічны план на 1987 год. Таксама згодна прынялі яны праграму па развіццю дробнай вытворчасці і бытавых паслуг. У гэтай галіне радныя асаблівую ўвагу звярталі на тое, каб дробная вытворчасць у першую чаргу карысталася мясцовай сыравінай, а ў сферы бытавых паслуг каб першынство ды ільготы даваць тым рамеснікам, якія сваю паслуговую дзейнасць захочуць разгортваць у вёсках і малых мястэчках.

Як бачыце, XV сесія ВРН прайшла з вялікай нагрузкай важных праблем, якія вызначаюць нашае заўтра.

**Віктар Рудчык**




(Працяг са стар. 4)

іх... за дарма, нават і не за „дзякуй“. Гэта нашы „белавежцы“, яны „верныя роднаму“, як напісана ў загалоўку артыкула пра Сакрата Яновіча, у яго пяцідзесяцігоддзе („Ніва“ ад 7 верасня). Яны працуюць над развіццём роднай культуры, над утрыманнем у жывых роднай мовы, над паглыбленнем пачуцця годнасці беларускай.

У чытачоў „Нівы“, мабыць, узнікла ўражанне, што я не люблю некаторых „белавежцаў“, напрыклад, часам крытыкую Васіля Петручука, і „Аўроры“ дастаецца ад мяне іншы раз, хоць яна пакуль не пісьменніца, піша толькі шмат у „Ніву“. Бывае, і на іншых аўтараў нашых буркну я. Але ўсё гэта ў мяне не ад таго, што я не люблю іх. Я хачу аднаго: каб „Ніва“ наша, і каб кніжкі нашых „белавежцаў“ былі найдасканалымі, вартымі гордасці за іх! І мяне кожны мае права крытыкаваць, чаму не?! Вядома, яшчэ не нарадзіўся такі чалавек на свеце, якому крытыка была б мёдам.

Я ўсіх іх люблю — і Петручука таго, і Барскага, і Аўрору, і ўсіх іншых, хто працуе на ніве беларускага слова, хто так самаахвярна ўзвышае наш беларускі гонар і сведчыць аб нашай прысутнасці ў свеце культуры. Я зычу ім лягчэйшага жыцця, а тых беларусаў, якія ганьбуюць родным, я не лічу наогул за людзей.

Нягледзячы на ўсе гэтыя нашы беды, трэба, аднак, сказаць, што мова наша беларуская ўсё-такі вывучаецца ў школах, усё-такі выдаецца „Ніва“, і радыёперадачы беларускія можна пачуць. Каб не было Народнай Польшчы, дык і не было б гэтага ўсяго, і нават сённяшняй такой дыскусіі нашай, відаць, таксама не было б. Гэта напэўна! Хоць і нямала пагарды засталося да ўсяго беларускага, а наша мова ёсць мёртвай мовяю ва „ўжэндах“, не прызнанай. Але, пажывем — пабачым, хто з каго апошнім будзе смяяцца.

**Калісьці ў нашу Дубіцкую гміну прыехаў нейкі начальнік з Варшавы самое. Ён, пачуўшы, што ў гміне некаторыя гаварылі паміж сабою па-беларуску, аблаяў начальніка гміны так, што дубіцкія „ўжэнднікі“ доўгі час баяліся і заікнуцца на роднай мове. Але гэты скандал прамінуў, даўно быў, цяпер часы ўжо не тыя. Людзі змяніліся. Некалькі гадоў назад адбываліся ў нас гмінныя дажынкі ў Старым Корніне, і стараста дажынак, наш добры беларус, заўпарціўся адкрыць урачыстасць па-беларуску менавіта. І спатрэбілася ажно самое злосці віцэваяводы беластоцкага, каб прымусіць гэтага гаспадара гаварыць па-польску да беларускага натоўпу (я, будучы на месцы гэтага старасты, не ўступіў бы, аднак!). На наступных дажынках не ўступіць і ён, бо надта ж тады пляваўся і заеўся ў сваім беларускім яшчэ мацней!.. Права не забараняе!!**

**М. Панфілюк**

## Сустрэліся два карэспандэнты „Нівы“

**Будучы на адпачынку ў Ялёняй Гары, выбраўся я з'ездзіць у даволі блізкую адсюль Легніцу. Мне вельмі захацелася ў гэтай далёкай старане сустрэцца з беларусам, з Тамашом Кірылавым: ён — карэспандэнт „Нівы“, і я карэспандэнт. Даўно не бачыліся, колькі гэта ўжо гадоў будзе ад нашай сустрэчы на з'ездзе карэспандэнтаў у будынку „Нівы“ ў Беластоку...**

Вось і тая Легніца, чысты і старадаўні горад. Кватэру Кірылава знайшоў без асаблівых блуканняў. Ён быў дома, жонка. Мы горача прывіталіся, як родныя які. Потым ён вадзіў мяне па сваім горадзе, па гэтай Легніцы, сярэдневяковыя сцены якой, можа, і ўпершыню пачулі беларускую мову... Кірылаў кажа: калі ўжо быць беларусам, дык быць ім да канца! Усюды хай ён будзе ім, і на вуліцы, і ў іншых публічных месцах няхай не тоіцца з тым, што беларус ён! Гэта справа гонару, гэта справа чалавечай годнасці перш за ўсё. Вось так гутарылі, я і Тамаш Кірылаў з Легніцы. А стаяць у гэтым горадзе будоўлі аж з дванаццатага стагоддзя, з глыбокага яшчэ тады сярэднявечча. Колькі тут гістарычнай памяці — гэта ж пад Легніцай заламалася татара-мангольская навала, якая, бы ўраган які, спляжыла Кіеўскую Русь, пусціла з дымам і абрабавала большасць земляў Польскага Каралеўства. Глядзелі мы старадаўнія касцёлы і ўсялякія камяніцы, плошчы і памятныя для польскай гісторыі месцы. Тут ёсць і помнік братэрства савецкіх і польскіх воінаў у апошнюю вайну. А на вуліцы Красіцкага стаіць... царква з 1892 г. У ёй убачыў я вышываныя ручнікі з узорамі такімі нашымі, беларускімі. Прыгожы ў ёй іканастас, прывезены сюды пасля вайны недзе з-пад Любліна.

Калі мы вярнуліся дамоў, у гасцінную сям'ю Кірылавых, сам Тамаш паказаў мне беларускі савецкі часопіс „Шлях перамогі“ ад 1985 г., у якім надрукаваны нарысы яго пра родную Глыбоччыну (загаловак: „Ганаруся Глыбоччынай“, і яшчэ адзін нарыс: „Ганаруся Бацькаўшчынай“). А ў мінскай „Літаратуры і мастацтве“ ад 13 ліпеня 1984 г. апублікаваны яго артыкул „Буковы лес“ — гэта пра злавесны канцлагер Бухенвальд.

Кірылава ведаюць і шануюць у Легніцы. Яго ўшанавалі адзнакаю Заслужанага дзеяча культуры, Залатою адзнакаю ТППР, Крыжам вязняў гітлераўскіх лагераў, Партызанскім крыжам і, урэшце, удастоены Кірылаў высокай дзяржаўнай узнагароды, менавіта атрымаў Кавалерскі крыж Ордэна адраджэння Польшчы. У яго шмат беларускіх кніжак, між іншым, ёсць том Максіма Танка „Лірыка і вершы“ з уласнаручным подпісам яму ад гэтага выдатнага беларускага паэта.

Тамаш Кірылаў даў мне праглядзець таксама і свае кніжкі, апублікаваныя ўжо і яшчэ неапублікаваныя, толькі што напісаныя. Мая сустрэча з ім будзе мне доўга ўспамінацца як адна з самых прыгожых сустрэч у маім жыцці.

**Андрэй Гаўрылюк**



**Зялёная Гара. На здымку аўтар артыкула.**




Дарагія, у чэрвені гэтага года мне пашчасціла пабываць у сталіцы Беларусі, у Мінску, горадзе маіх юнацкіх гадоў. З гэтай паездкі дасылаю вам некалькі сваіх лірычных вершаў. З пашанай Да Вас — Лаўрын Козюк, лекар з Кальбушова, што ў Жэшоўскім ваяводстве.

### МАЛАДЗІК

#### I

Ты ў дарогу мяне выпраўляла,
На ўсход адыходзіў цягнік.
У час расстання таго, над
вакзалам
У нябёсах усплыў маладзік.

Упадуць на далёкія вёрсты
Шмат дажджоў, светлых рос,
непагод.
Можа быць, мы за гэтую
ростань
Пасталеем на некалькі год.

А калі будзе наша спатканне,
Мы, напэўна, убачым ізноў,
Што ў нашым гарачым каханні
Маладзік яшчэ толькі ўзышоў.

#### II

Восень чырванню палала,
Лісцем падала з галін.
Шмат ты ў кошык назбірала
На балоце журавін.

Бор табе сасновым скрыпам
Адгукнуўся за ракою.
І мне лёс шчаслівы выпаў
Там убачыцца з табою.

Быццам пацеркі, ірдзелі
Журавіны на траве.
Ды ярчэй за іх гарэлі
Вусны тонкія твае.

Каб шчаслівым быць
з дзяўчынай,
Сэрца ёй сваё аддаць,
У той кошык журавіны
Я пачаў тады збіраць.

Восень чырванню палала,
Лісцем падала з галін.
Ах, чаму ж было так мала
На балоце журавін?

**Лаўрын Козюк**

## СВЕТЛЫЯ ВОЧЫ

Прыморскі гарадок. З'езд маладых актывістаў таварыства міжнароднай дружбы. Працуем над праграмамі, дыскуціруем, крытыкуем, гуляем, размаўляем. Сяджу з Янкам, намнога маладшым за мяне хлопцам, студэнтам медыцынскай акадэміі, сінія вочы якога хаваюцца за густымі, як аер, вейкамі.

— Не, не так глядзі. Слухай, калі не ўмееш ці не любіш глядзець чалавеку, з якім гутарыш, у вочы, зрабі хаця б „панараму“. Вось так. І на хвілінку спыні позірк на яго зрэнках.

— А калі гэта мужчына? — з „пахавальнай“, як заўсёды, мінай, дапытваецца Янка.

— Бачу, што ўжо разумееш многа, па-свойму нават жартуеш. Трэніроўка — найважнейшае. Пакуль што, трэніруйся спакойна на нас, „старым партфелі“.

— Яшчэ без патрэбы „рэвалёрызацыі“. Не думаеш, што гэта для вас небяспечна?

— Дзіця дарагое, ты што? Стрэляныя вераб'і ўцякаюць праз сетачныя вочкі.

— Стрэляныя дробным шротам.

— Добра, бярэмся за вялікі калібр. Зацікаўленне. Калі ты хочаш арганізаваць вакол сябе моладзь, ты павінен умець іх зацікавіць. У цябе настолькі прыцягальны выгляд, што калі ты толькі адазвешся, усе звяртаюць на цябе ўвагу.

— Некаторыя скрыгічуць зубамі.

— Вельмі добра! Твая праграма... Пераканаць перш за ўсё сябе, што людзей не трэба баяцца, нельга баяцца іх рэакцыі, таго, што скажуць ці падумаюць. Тое, што для цябе дарагое з ідэй нашай арганізацыі, нашага таварыства міжнароднай дружбы — усё гэта можа стаць вельмі важным таксама для іх, тваіх сяброў, і студэнтаў малодшых курсаў. Можа цяпер яны не так папулярны ў вашым асяроддзі, як алкаголь, наркотыкі, секс ці „ўцёкі ў сябе“; хто цяпер паважна думае аб конкурсах, выстаўках ці гадавінах“! „Згрэды!“ Хто нармальны будзе арганізаваць „вечарніцы“ ці „сустрэчы ля самавара“? Ветэраны, саратнікі, гарцэры і штатныя работнікі таварystваў... Паехаць „на гандаль“ затое гатовы ўсе.

— Так яно і ёсць. У мяне ў школе глядзяць на мяне як на вар'ята.

— Хто?

— Ну, мае сябры... Не, калегі. Ды не яны для мяне важныя, прыдуркі, якіх увапхнулі бацькі, каб лекарамі сталі і грошы зараблялі.

— Не ўсе ж — „прыдуркі“.

— Гэта мая група, з якой ха-

 

# ТАК БЫВАЕ...

## ВОСЬ І ВЫЛЕЧЫЎСЯ!

— Ты ведаеш што, — пачаў маналог пажылы мужчына, — калі захварэеш, дык невядома, куды падацца — ці да лекара, ці да знахара... Часам знахар лепей дапаможа табе, а часам і лекар. Вось, для прыкладу кажучы, бяда з „рожаю". Пойдзеш з тою „рожаю" да знахара — замовіць ён яе табе, і ты выратаваны. А калі да лекара з „рожаю" зайсці, ого, да паўсмерці цябе залячыць ён можа, і — акажацца — не вылечыць, аднак. Разумнейшыя з іх то і проста кажуць: з „рожаю" не да нас трэба, а да знахара якога. шаптуна... Такая прырода хваробы, і цяпер на знахараў таксама і навука мае іншы, больш спакойны погляд, бо ж чалавек гэта адна вялікая загадка і ніколі невядома напэўна, што яму дапаможа, таблетка ці шэпты знахара (?). Вядома, лекар павінен быць на першым месцы, бо ці ж можна раўнаць паўпісьменнага знахара, які нават і не чуў пра культуру, а калі і чуў, дык не ведае, што гэта, думае толькі пра грошы і дабрабыт, ну, то ці можна ставіць знахара такога побач з лекарам, у якога, нават і ў найменш здольнага, ёсць аднак жа сякое-такое паняцце пра свет і на свеце?

Але, як кажу, ніколі добра невядома, на што больш чалавек ёсць падатлівы са сваімі хваробамі. Майму сваяку даволі далёкаму раптам пачаў балець жывот (праўда, у яго не жывот, а жывацiска проста!). Аб'еўся чым ці ад перапою якога так яму здарылася, даволі таго, аднак, што так пачаў ён яму балець, што хоць ты з гэтым болем на сцяну лезь! Жонка і кажа яму, як гэта баба зазвычай: да знахаркі ідзі, падла ты! І яна накiравала яго да вядомай знахаркі, пра якую ўсе гавораць і хваляць, нахваліцца не могуць. Ну, завалокся ён да тае знахаркі, а там народу да яе поўная хата і двор. Але прычакаў. Укладавіла тая знахарка на ложак гэтага мужыка, кашулю задзерла яму пад бараду ды жывот мацае хворы. Потым прынесла яна з кухні немалую гладышку, добра такі нагрэтую там на агні, і паставіла яму яе, бы банку, на жывацiска той яго. Трохі запякло яму ад таго жару гладышкі больш як літровай, але ён змаўчаў, сцярпеў, ані слоўцам не енкнуў, не скавытнуў. Неўзабаве зняла яна яму з жывата гладышку, вынесла яе назад на кухню і зараз жа вярнулася адтуль з яшчэ большай гладышкай, здавалася, можа і паўвядровай, Божа ж ты мой, Божа! І куды гарачэйшай за першую!! І як толькі паставіла яна гэтую гладышку яму на хворы той жывот, дык запякло ўжо не жартам. На тым месцы пасля зрабілася чырвоная круглая пляма, бы месяц у поўні, і скура на тым месцы зусім паморшчылася, збеглася, як матэрыял які ў кепскай краўчыхі. Адчуў ён сябе добра апечаным, амаль надсмаленым.

Калі вярнуўся ад знахаркі — жывот усё роўна не перастаў яму балець, як нажом хто рэзаў па ім, Як ні як, а давялося выбрацца да лекара. Лекар глядзеў-„бадаў" тое яго жывацiска і сказаў: у бальніцу трэба, пане, на хірургію адразу! І яшчэ ў той жа дзень зрабілі гэтаму чалавеку аперацыю. Лекар, што рэзаў яго, пасля дапытваўся, адкуль на жываце такі месяц з'явіўся. І калі даведаўся, то мала не пакацiла яго на падлогу ад рогату. Ён і назаўтра не мог паўстрымацца ад смеху, колькі разоў не ўбачыў таго мужыка падчас медычнага агляду хворых у шпіталі. Жывот балеў яму таму, што ў яго сляпая кішка загнівала ўжо, а такое бяды збанам не вылечыш. Каб тое здарылася з ім, скажам, даўней, то напэўна памёр бы ён у пакутах, так і не даведаўшыся, чаму і як. Так што знахар можа і памагае каму, у каго хвароба больш ад нерваў, як тая „рожа", і калі хто верыць у таго знахара. Трэба верыць у вылячэнне, гэта падстава ўсяго лячэння. І нават лекары кажуць, што і таблетка не дапаможа табе, калі ты не верыш у тое, што яна дапаможа табе. Чалавек гэта табе не машына з вінцікамі, якую абы-механік паправіць.

**Аўрора**

Быстранскі краявід. Фота Юркі Трачука.

джу на заняткі. Грошы, дзеўкі, аўтамашыны, Захад.

— Не ўсе ж. Ну, падніммі вочы. Усміхніся, а то пасля, калі гляне на цябе твой хворы, адразу яму дрэнна стане. Не, не так. Усміхніся мне. Ну, добра. Ты занадта ўглыбляешся ў стан сваёй душы, тут і цяпер. Пакінь гэта на доўгія начныя гадзіны. А цяпер глядзі. Проста ў вочы людзей. Чалавек патрабуе твайго адкрытага позірку. Не спяшайся прайсці міма. Не як лекар, а проста як чалавек, як брат іншага чалавека, які вось стаіць разгублены і бездапаможны.

— Філосаф ты. І таму ўсе ў аўтобусе становяцца каля цябе — ведаюць, што якраз ты ўступіш ім сваё месца.

— А калі я сама, мне ніколі...

— І ты пры гэтым смяешся?

— Не буду ж плакаць. Усё, што дрэннае на зямлі, вырасла з неразумнасці, дурноты, проста — несвядомасці. Свядомая дурнота — грэх, і грэх таксама злаваць на дурня. Ён не зразумее ні сваёй дурноты, ні твайго гневу на яго дурноту. Ды і шкада чалавека, калі Бог яму розуму не даў ці ён сам таго розуму браць не хацеў...

— Няма чаго з такімі, па-мойму, гаварыць, язык толькі трапаць. Разумнаму слова скажаш... Лепш з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці.

— Слухай, Янка! Мы так цытатамі гаворым прамудрымі. А самі — ці многа ведаем? Хто даў нам права да абсалютнай ацэнкі людзей, адразу і бязлітасна?

— Ты што? Няўжо не відаць адразу, хто дурань, злодзей ці свіння? Гэта ж проста, няма чаго скрываць ці каго шкадаваць.

— Не ўсё на свеце такое яснае і простае. Па-мойму, як няма зусім дрэнных людзей, так рэдка трапляюцца і ідэалы.

— Ужо гаворыш, як старая. І яшчэ вучыць мяне хочаш. Сама мякнеш, а мне: „Ідзі проста, глядзі ў вочы, праўду кажы". Дойдзеш да Леца: „Гавары толькі праўду. Калі яна аплачваецца!" Гэта называюць „жыццёвым вопытам"?

— Янка, дарагі, гэта вельмі добра, што ты так горача адбіваешся ад усяго, да чаго не хочуць дакрануцца твае чыстыя зрэнкі...

— Ну, перастань. „Чыстыя зрэнкі"! Мне ўжо 21 год. Можа — толькі „яшчэ". І не хачу мець нічога супольнага з гэтым злом, згаджацца на яго, ніколі і нідзе. І разумець яго — ніколі!

— Янка, ты — як лекар і цела, і душы, будзеш прымушаны капацца ў такім брудзе і цярпенні, што... Цярпенні чужым, цярпенні сваім. Пакуль што, глядзі на ўсё. Гэты бруд ніколі не зойдзе табе ў скуру, у кроў.

— Думаеш, кроў у мяне блакітная?

— Не блакітная. Такая, як ва ўсіх і да ўсіх ты знойдзеш слова. Без пагарды, без агіды.

— Ці гэта што каму паможа?

— Можа іншым, можа і табе самому.

Не, не так. Не глядзі так.

**Міра Лукша**

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W nawiązaniu do notatki prasowej Ob. M. Panfiluka w sprawie zakupu części zamiennych do maszyn rolniczych uprzejmie informujemy, że sprzedaż części zamiennych do ciągnika typu T-25 („Władimirowiec") prowadzą składnice maszyn rolniczych w Bielsku Podlaskim, Hajnówce i Siemiatyczach. Ponadto części do tego rodzaju ciągników znajdują się w SMR Białystok, Łapy i Sokółka. Ogólnie składnice dysponują 1.500 pozycjami części. Stan zaopatrzenia składnicy w Bielsku Podlaskim i Hajnówce został sprawdzony z chwilą otrzymania notatki z „Niwy". Podobna jest sytuacja z zębami i widłami do przewracarek. Przede wszystkim jest to pierwszy i jedyny fakt o masowym łamaniu się zębów w tym sprzęcie. A w przypadku, gdyby się tak stało, są one również do nabycia we wszystkich SMR w dowolnej ilości. Dziwi nas zatem fakt pokątnej spekulacji częściami zamiennymi do maszyn i narzędzi rolniczych na tym terenie.

Informujemy również, że w części zamienne, zwłaszcza do maszyn i sprzętu ciągnikowego, należy zaopatrywać się w składnicach maszyn rolniczych, ponieważ są to placówki specjalistyczne i posiadające duże zaplecze.

Sklepy gminne z artykułami do produkcji rolnej prowadzą sprzedaż około 250 pozycji części zamiennych, podstawowych, przeznaczonych wyłącznie do sprzętu trakcji konnej.

Autor notatki, Ob. M. Panfiluk, zwraca też uwagę na trudności w nabyciu cementu i eternitu. Nadmieniamy w związku z tym, iż sprzedaż wymienionych materiałów budowlanych prowadzą gminne spółdzielnie na zlecenie i listy planowego budownictwa, otrzymane z urzędu gminy, dokąd każdy zainteresowany tym rolnik winien kierować, zgłaszać swoje potrzeby.

**Dyrektor Zakładu Zaopatrzenia Rolnictwa Wojewódzkiego Związku Spółdzielni Rolniczych „Samopomoc Chłopska" w Białymstoku — Zb. Dobrzyński**

*

Okręgowy Zarząd Lasów Państwowych uprzejmie informuje, że dokonał analizy problemu poruszonego w artykule Piotra Bajko p.t. „Kto ma wygrodzić Białowieżę", zamieszczonego na łamach „Niwy" w numerze z dnia 13 lipca br.

Okręgowy Zarząd L.P. przedmiotowy problem szkód od zwierzyny na Polanie Białowieskiej omówił z Dyrektorem Białowieskiego Parku Narodowego mgr. inż. Kujawiakiem. Z szacunkowych ustaleń wynika, że koszt solidnego ogrodzenia zabezpieczającego nie przenikanie zwierzyny z rezerwatu na pola uprawne wyniósłby około kilkanaście milionów złotych. Możliwe jest zastosowanie przez Białowieski Park Narodowy materiałów z obrębu po zbędnych już ciągach ogrodzeniowych.

Ze względu na ekonomiczną stronę przedsięwzięcia wymaga ono jeszcze analiz, konsultacji i pertraktacji, które powinny przynieść uruchomienie budowy przedmiotowego ogrodzenia już w 1987 roku.

O postępach w sprawie grodzenia rezerwatu w Białowieży Okręgowy Zarząd Lasów Państwowych poinformuje Redakcję „Niwy" niezwłocznie po pierwszych ustaleniach i decyzjach.

**Z-ca Dyrektora mgr inż. Tadeusz Michałowski**

# Афарызмы

Дзе не шануюць кніжак, там не шануюць і чалавека.

Лепей сабацы скібку хлеба даць, чымсьці чалавеку мяшок грошай. Сабака прыяцелем тваім станецца, а чалавек каменем у цябе кіне.

**Аўрора**



 

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Уладзімір Караткевіч

## КАЗКА

## ЖАБКІ І ЧАРАПАХА

На беразе маленькага ляснога возера-балотца разгарлаліся, разышліся і наладзілі канцэрт жабы. Церушыў на іхнія галоўкі цёплы дожджык, свяціла праз яго сонца. Весела было жабкам — вось яны і спявалі.

І тут прыплыла пратокай з такога самага суседняга балотца-возера вялікая балотная Чарапаха. Жыла яна адна, пачула вясёлыя спевы і вось прыплыла, вынырнула, напалову вылезла на бераг і ўся аж зморшчылася ад асалоды. Надта добра спявалі жабкі.

— Жабкі-жабкі, дзень добры.

— А ты што за цуда-юда? — спыталі жабкі.

— Я Чарапаха.

— Бачыць такое не бачылі, чуць гэткае не чулі. Значыць, не можа цябе быць.

— Ды ёсць жа я, — сумна сказала Чарапаха. — І як вы добра спяваеце! Паўтарыце, калі ласка. Проста салаўі.

— Можам, — сказалі ўлешчаныя жабкі.

Ку-ма, ку-ма
Бор-шчык вар-рыла.

— Выдатна, — сказала Чарапаха. — Выключна.

Бур-ракі, бур-рак-кі,
Бур-ракі-кі-кі-кі-кі.

У Чарапахі — аж слёзы з вачэй, так хараша спявалі жабы.

— Жабкі-жабкі, прыміце мяне ў свой хор.

— А ты спяваць умееш?

— Не. Я слухаць люблю.

— Дык слухай. Здалёк. Ці прывядзі сястру, якая ўмее.

— І яна не ўмее, — сумна сказала Чарапаха. — Мы, чарапахі, не ўмеем спяваць. Голасу нам не дадзена.

— Дык нашто ты нам тады? — спыталі жабкі.

— А слухаць вас хто будзе? Хваліць?

— Нас і так усе чуюць. І ўсе хваляць.

— Ну і я ціхенька сядзела б ды хваліла б, — сказала добрая і разумная Чарапаха.

— Дык ты, можа, яшчэ нешта ўмееш? — спытала Галоўная Жаба ў хоры, якая аж дзьмулася з важнасці.

— Плаваць умею. Ныраць.

— Гэта й мы ўмеем. А скакаць умееш?

— Не, — уздыхнула Чарапаха.

— Нічога ты не ўмееш... А мы яшчэ нясём ікру. Жабурынне.

— Я замест яе яйкі нясу, — сказала Чарапаха. — Вялікія.

— Ф-фу, — сказала Галоўная Жаба, — яйкі... Ну, паспрабуй усё ж заспяваць.

І Чарапаха зарыпела:

Свеціць месячык з гары
На глыбокія віры.
На шчытах у чарапах
Сіняе святло гарыць.

— Словы нішто сабе, — сказалі жабы, — але ж голас? Бр-р-р!

— Дык я б вам словы, а вы б — спявалі.

— Словы ў нас не горшыя. Самі прыдумалі:

Што вар-рыла, кум-ма,
кум-ма?
Боршч, бор-ршч, бур-ракі.

— Добрыя словы, — сказала Чарапаха, — але галасы ў вас лепшыя.

— І што гэта за „шчыты ў чарапах"? — спытала Галоўная Жаба.

— А вось тое, што на мне.

— Гэта карычневае? — усхваляваліся жабы. — Гэта брыдкае? Ну не. Мы вось такія прыгожыя. Зялёныя. Бліскучыя. Як лакіраваныя.

(Праця на стар. 10)

Фама Рамашка

## Жывы барометр

— Зноў пойдзе дождж, — уздыхнула бабуля.

На другі дзень сапраўды наплылі цёмныя хмары і замжэў дождж.

— Бабуля, як ты здагадалася, што будзе дождж? — пацікавілася Юлька.

— А ў мяне, унучка, ёсць барометр, — усміхнулася бабуля. — Ды не такі, як у дзядзькі Апанаса, а жывы.

— Ці ж бывае жывы барометр? — здзівілася Юлька.

— Бачыш: бярозка за акном. На ёй і жыве барометр. Зараз адчынім фортку і паслухаем, што ён скажа.

— Ці-ці-віць... Ці-ці-віць... — пачулася за акном.

— Гэта ж птушка спявае, — здагадалася Юлька.

— Так, птушка, — пацвердзіла бабуля. — Берасцянка. Лепей за барометр прадказвае надвор'е. Маўчыць — чакай даждж у. Заспявае — сонейка засвеціць.

— Ой, як добра — узрадавалася Юлька. — Берасцянка спявае. Значыць будзе сонейка. І мы, бабуля, пойдзем у лес па грыбы.

**Адказ на адгаданку:** 1. Зорка. 2. Вучні. 3. Школа. 4. Водар. 5. Кніга. 6. Комін. 7. Бурак. 8. Ручай. 9. Юрыст. **Адгадка:** Шануй родную мову.



У асеннім задуменні.

Фота Анатоля Хоміча.

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Георгій Граўбін

## ГОСЦІ БАБЫ ЯГІ

— Добры дзень, бабуля,
Бабулечка Яга,
Кволая, балючая,
Рыпучая нага!

Як ты пажываеш,
Лясная сіраціна,
Як перабываеш
Ночы пры лучыне,

Як ты ў беднай хатцы,
Хворая скрыпіш,
На курынай лапцы
Усё яшчэ ліпіш?

І сказала бабка,
Бабулечка Яга:
— Больш мяне не мучае
Рыпучая нага.

Вылечыла гразямі,
Націраннем, мазямі —
Лятала на ўсё лета
На поўдзень, на курорт,
Па авіябілету,
Што даў аэрапорт.

А жыву адменна,
Маю добры дом —
Новы, пяцісценны,
З электрасвятлом.

Ёсць тэлевізар, радыё
І водаправод.
Як ніколі рада я
Ужо каторы год.

Лясныя слухаць песні
Выходжу на балкон.
Спраўна носіць пенсію
Добры паштальён.

Жыву, адпачываю
У даглядзе, цяпле.
Даўно ўжо не лятаю
Я верхам на мятле.

— Мілая бабуся, —
Сказалі мы старой, —
Дазволь нашай экскурсіі
Наведаць домік твой.

Як нас прывячала
Бабуля за сталом,
Частавала чаем
З брусцічным пірагом!

Мы ўсе куткі абтупалі
Адзін раз і другі —
І не знайшлі ні ступы
І ні качаргі.

І толькі кот вялізны,
Ветэран-вусач,
Сядзеў ля тэлевізара,
Глядзеў футбольны матч.

З рускай мовы пераклаў
Васіль Вітка

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Зьяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё ў суботу, 18 кастрычніка а 18 гадзіне.

### ДВА СЛОВЫ
(З рэпертуару „Сяброў")

Чароўнай музыкай сагрэты,
Як песня родная ці казка,
Як зоркі ясныя над светам,
Два шчырых словы — „калі ласка".

Яны ад шчодрасці народа,
Ад чысціні, яго спагады;
Як песня родная ці казка,
Два шчырых словы — „калі ласка".

У іх прыязні, дружбы подых
І незабыўны водар мая,
У іх сіла самых добрых словаў,
Якія сэрцам успрымаю.

Як песня родная ці казка,
Два шчырых словы — „калі ласка".

Я імі проста заварожан.
І блізкія з маленства словы
Цвітуць і росна і прыгожа,
Нібы маёй матулі мова.

Яны ад шчодрасці народа,
Ад чысціні, яго спагады;
Як песня родная ці казка,
Два шчырых словы — „калі ласка".



„Пара дамоў!"






Любімая партыя ў пінг-понг.

## СВІННЯ І АГАРОДНІК

Свіння рылася ў агародзе. Гаспадар убачыў і закрычаў:

— Прэч адсюль! Яшчэ чаго выдумала — рыцца ў маім агародзе.

Свіння спакойна адказала:

— Скажы дзякуй, што я не рыюся ў тваім мінулым.

Чаго можна чакаць ад свінні...

## ШТО ЛЯГЧЭЙ?

Настаўніца звяртаецца да вучня:

— Прызнайся, Паўлік, што дамашняе заданне за цябе выканала маці.

— Гэта так, але за гэта я вымушаны быў памыць посуд, абабраць бульбу, вынесці смецце, — адказвае вучань.

## ВЯЛІКАЯ РОЗНІЦА

Бабуля пытае суседа-лодара:

— І што яно такое, Іван, ты ўсё ляжыш ды й ляжыш — то на сонцы, то ў цяньку?

— Э, бабуля, гэта — вялікая розніца. Калі я не хачу працаваць — ляжу на сонцы, а калі хачу працаваць, дык ляжу ў цяньку.

## НЕ ШАНЦУЕ

— Я купіла выпадкова таннную шлюбную сукенку.
— І што ж?
— На жаль, у мяне няма да яе жаніха...

## ПЕРАВАГА

— Міхась, цяпер самы лысы ў горадзе не я, а новы аптэкар.

— Дык вы ж абодва лысыя, бы бубен?!

— Яно так, але ў яго большая галава.



Працуе, як поршань: толькі пад ціскам.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Мне б нумарок, — сказаў камандзіраваны з поўдня, прасоўваючы ў акенца адміністратара пашпарт з укладзенай у яго паўсотняй. Але атрымаў адмову толькі таму, што, як ні дзіўна, усе нумары ў гасцініцы былі сапраўды заняты.

*

— Стаўлю 100 крон, што табе не выпіць дванаццаць кухляў піва запар, — пайшоў у заклад Кнутэ з камівояжорам са Стакгольма.

Стакгольмец падумаў, моўчкі выйшаў з піўной, але праз паўгадзіны вярнуўся і прыняў заклад.

— Ну, ты моцны! — усклікнуў захоплены Кнутэ, гледзячы, як той перакульвае апошні, дванаццаты кухаль.

— Павінен прызнацца, што я бегаў у суседнюю піўную і спачатку там патрэніраваўся.

*

— Тата, я часта чытаю пра людзей: „Бедны, але сумленны". Чаму ніколі не пішуць: „Багаты, але сумленны".

— Ты што, сынок? Ніхто ў гэта не паверыць, — адказаў бацька.

## МОДНІЦА

Яна мяняе
Часта так абновы,
Знаёмых не міне,
Каб не спытаць:
— Як падабаецца,
Скажыце, муж мой новы?
Ці не пара
І гэтага мяняць?

**Я. Крупенька**

З „Весніка Задрыпоніі"

## ПОМНІК АШЧАДНАСЦІ

Вялікая работа па эканоміі ашчаднасці праводзіцца ў Карытаве. Нядаўна тут пастаўлен яшчэ адзін гранітны манумент з надпісам „Грошы лік любяць".

## ПАРАДЫ

Калі адзін з вашых таварышаў па службе нечакана пачынае частаваць вас сваімі папяросамі — значыць, ён канчаткова зразумеў, што курыць — здароўю шкодзіць.



— Спадзяюся, вы не забылі аб абпапным пасагу?



— Каму гэта са студэнтаў я так моцна папіснуў руку?



Мары навабранца.




## АГРАБЛЕННЕ ВУЛІЦЫ

У Філадэльфіі адзін 36-гадовы спрытнюга стаў перад судом за „аграбленне вуліцы". Сярод белага дня ён выкалупаў з вулічнага пакрыцця аднаго з прыгарадаў 16000 бетонных пліт, і, пакуль улады апамяталіся, паспеў па адным долары за штуку прадаць 12000 з іх уласнікам прыватных будынкаў.

Апамяталіся ўлады толькі пасля таго, як адзін з жыхароў пацікавіўся ў мэрыі, калі будзе закончаны рамонт вуліцы.

## З КНІГІ ГІНЕСА

Захапленне выклікала ў чытачоў публікі паведамленне газеты аб тым, што іспанец Карлас Конас устанавіў новы сусветны рэкорд працягласці беспярапыннага танца, пратанцаваўшы без перапынку аж 154 гадзіны і 44 мінуты. Аналагічную эмацыянальную ўпартасць праявіў і француз Хрысціян Дзюфон, жыхар горада Гранкура, які іграў на акардэоне 184 гадзіны.



Калі б маўчанне сапраўды было золатам, тады і ўсе рыбы былі б залатымі.